ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 48 (1802) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 2 СНЕЖНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



**Самым буйным мерапрыемствам быў I Фестываль беларускай песні. Сярод яго ўдзельнікаў быў калектыў „Світанак" з Гародні. Фота Я. Чэрнякевіч.**

## Здзяйсненні і намеры

Адзінаццатага лістапада ў Галоўным праўленні Беларускага грамадска-культурнага таварыства адбылося адкрыццё культурна-асветнага года 1990/1991. Прысутныя пазнаёміліся з дэталёвай справаздачай аб дзейнасці ў мінулым годзе і з галоўнымі напрамкамі працы ў будучым сезоне.

Мінулагодняя інаўгурацыя культурна-асветнай дзейнасці адбылася 15 кастрычніка 1989 г. і тады было падпісана пагадненне паміж БГКТ і Абласным аддзяленнем Савецкага фонду культуры ў Гродне ды Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам. У выніку рэалізацыі гэтага пагаднення і пазнейшых дамоваў з культурнымі і асветнымі ўстановамі ў Беларусі 17 выпускнікоў нашых сярэдніх школ стала студэнтамі беларускіх вышэйшых навучальных устаноў. У Гродзенскім універсітэце вучыцца цяпер 10 студэнтаў, у Культурна-асветным вучылішчы ў Гродне — 4, у Мінскім інстытуце культуры — 2 і адна асоба ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце ў Мінску. Тут трэба напомніць, што годам раней на навуку ў БССР былі ад нас прыняты толькі дзве асобы.

Зусім інакш выглядала і арганізацыя летняга адпачынку для нашых дзяцей у БССР. Раней Беларускае таварыства „Радзіма" з Мінска запрашала на канікулы ў Беларусь усяго 5 дзяцей, тады калі ў Польшчу прыязджалі на адпачынак тысячы дзяцей з польскіх арганізацый у БССР. На нашыя пастулаты таварыства „Радзіма" павялічыла колькасць запрошаных дзяцей і летам у лагеры пабывала ўжо 25 вучняў. У выніку супрацоўніцтва з Гродзеншчынай у піянерскім лагеры „Лясная казка" адпачывалі лаўрэаты дзіцячых конкурсаў (50 дзетак) і ўдзельнікі харэаграфічнага калектыву (20 дзетак). Кошт іх трохтыднёвага адпачынку фінансаваў Гродзенскі аблвыканком. Разам з вучнямі са школы ў Орлі, якая наладзіла безвалютны абмен груп школьнікаў, у мінулым годзе адпачывала ў Беларусі 130 дзяцей, гэта значыць на 125 больш, чым раней.

Беларускае грамадска-культурнае таварыства арганізавала гастролі для пяці калектываў з Гродна, у тым ліку для трох вакальна-інструментальных і двух тэатральных. Пры дапамозе Гродзенскага універсітэта будзе надрукавана адна кніжка для БГКТ. Працягваецца традыцыйнае ўжо супрацоўніцтва з таварыствам „Радзіма". Па яго запрашэнні пяць нашых пенсіянераў пабывала на санаторным лячэнні, а восем інструктараў народных калектываў — на курсах.

Традыцыйна ўжо Беларускае таварыства з'яўляецца арганізатарам многіх мерапрыемстваў для школьнай моладзі. Праводзяцца яны ў супрацоўніцтве з Куратoрыяй асветы і выхавання ў Беластоку і пры вялікай дапамозе настаўнікаў. Да фіналаў дэкламатарскага конкурсу дайшло 33 школьнікаў. У тэатральным конкурсе прымала ўдзел 12 калектываў, 7 з іх выступіла ў цэнтральным аглядзе. Найбольш масавым мерапрыемствам у школьным асяроддзі з'яўляецца конкурс „Беларуская песня". У цэнтральным аглядзе (папярэджаным школьнымі і раённымі элімінацыямі) змагалася аж 128 вучняў падставовых школ.

Для школьнай моладзі з Беластока БГКТ арганізавала харэаграфічны гурток, у якім заняткі вядзе інструктар з Гродна. Першае публічнае выступленне юных танцаўшчыкоў адбылося ў беластоцкім амфітэатры падчас фестывалю беларускай песні. Плануецца арганізаваць для гэтай танцавальнай групы капэлу і хор. Таксама для беластоцкай моладзі БГКТ

(Працяг на стар. 6)

## Нічога не змянілася

На хвалі новай антыбеларускай істэрыі, якая пачалася ў так званым незалежным „Кур'еры Поранным" пасля візіта міністра Скубішэўскага ў Мінску, у той жа газеце (№ 208) паказаўся артыкул, падпісаны нейкім Ежы Гаўрылюком, у якім ён „даказвае" ўкраінскі характар Беласточчыны. Салідарніцкія райцы горада Бельск-Падляшскі месяц які раней, пішучы пратэст супроць сbabоймавай дзейнасці пасла Цімашэвіча (глядзі: „Ніва", № 44), „даказвалі", што Беласточчына — гэта польская этнічная зямля, а беларусы — гэта палякі, толькі прымушаныя царскімі ўладамі прыняць праваслаўе. Словам, беларусы — гэта расейская інтрыга. Раней у падобным духу пісалі „спецыялісты" гістарычных і этнаграфічных навук на старонках беластоцкіх „Кур'ераў" і „Тыгодніка Беластоцкага".

Тлумачачы, адкуль тут беларусы, Гаўрылюк паўтарае ўсе ідыятызмы брахунскай прэсы і падладжваецца пад палітычны ўзровень беластоцкай вуліцы. Не было б у гэтым нічога дзіўнага, бо і час адпаведны для прапаганды падобных поглядаў, і газета як трэба, калі б не тое, што Гаўрылюк імкнецца выступаць як карэнны ўкраінец Беласточчыны менавіта. Гаўрылюк у сваіх высновах далёка пераплюнуў мясцовую антыбеларускую чорную сотню. Паводле яго не толькі царызм прычыніўся да стварэння беларусаў на Беласточчыне, але пра гэта рупілася і бальшавіцкая Масква, ствараючы тут сваю агентуру — КПЗБ, якая прадаўжала місію стварэння беларускай нацыі на „украінскім" арэале. Вельмі спрыялі беларусам — гэта ж само сабой зразумела — сталінскія і гітлераўскія акупанты, а пасля вайны — і польскія камуністы. Вось пабачце, палякі, якія тут беларусы...

Магчыма, што гэтае крывадушнае выказванне і не заслугоўвае палемікі, але ў тэксце Гаўрылюка, калі супаставіць яго з надрукаваным пару дзён раней у тым жа „Кур'еры Поранным" соймавым выступленнем пасла Путры, бачацца мне шмат якія сімптомы сённяшніх псіхалагічна-палітычных дэвіяцый на Беласточчыне. Калі ён піша: „затруты сеў камунізму" даў плён, якім карыстаецца Бела-

(Працяг на стар. 2)

## ПОГЛЯДЫ

### ЯКІЯ МЫ БЕЛАРУСЫ

„Ніву“ чытаю я здаўна, але ў рэдакцыю пішу ўпершыню. На маю думку, „Ніва“ гэта самая мудрая і патрэбная газета для беларускага народа на Беласточчыне. Дзякуючы ёй маем магчымасць падтрымоўваць пастаянны кантакт з беларускай мовай.

Сваё маладое жыццё правёў я на вёсцы, што на Гайнаўшчыне, на ўскраіне Белавежскай пушчы. Не малады я чалавек і не аднаму ўжо мяне жыццё навучыла. Ведаю многіх беларусаў і іх адносіны да жыцця і нацыянальных спраў. З маіх назіранняў вынікае, што ёсць у нас тры групы беларусаў. Першая — гэта людзі, якія шануюць сваю родную мову і песню. Яны ніколі не забудуць свой бацькоўскі парог, у жыцці старающа захаваць любоў да роднага і перадаць яе іншым. Другая група — гэта людзі, якія да свае беларускасці адносяцца абыякава або з пагардай. Іх галоўная мэта — добра і выгадна жыць. Трэцяя група — гэта людзі, у якіх розуму, як у дзіцяці. Яны лічаць сябе палякамі таму, што жывуць у Польшчы. З такімі ў нацыянальных справах і не пагутарыш.

Я сам па меры сваіх магчымасцяў імкнуся быць добрым беларусам і лічу, што прыналежу да першай групы. Але каб там быць, мала толькі любіць. Трэба актыўна змагацца за беларускасць, адстойваць яе, памагаць будаваць Беларускі музей, не знеахвочвацца цяжкасцямі, якія падкідае нам жыццё.

**А. Падарожнік**

### УНІВЕРСІТЭТ ДЛЯ ВЫТВОРЦАЎ ЗДАРОВЫХ ХАРЧОЎ

Сельскагаспадарчая акадэмія ў Ольштыне арганізавала ў гэтым годзе сельскагаспадарчаэкалагічны адкрыты універсітэт. Згодна з формулай адкрытага універсітэта могуць у ім вучыцца ўсе жадаючыя, нягледзячы на адукацыю і ўзрост. І хаця ва універсітэт прымаюць без экзаменаў, то аднак даюць заліковыя кніжкі, а пасля паспяховага заканчэння навукі наведвальнікі атрымоўваюць дыплом. Зараз на занятк і прыходзіць 20 чалавек.

Як паінфармаваў мяне д-р Збігнеў Энглер — член праграмнай рады універсітэта, сярод слухачоў ёсць людзі розных прафесій: сяляне, настаўнікі і іншыя. Найстарэйшаму студэнту ўжо 73 гады, наймалодшаму — 17. Заняткі вядуць спецыялісты з Сельскагаспадарчай акадэміі, Вышэйшай педагагічнай школы, Польскай акадэміі навук і Варшаўскага універсітэта. Навука (бясплатная) будзе працягвацца два гады з мэтай падрыхтаваць вытворцаў (сялян, агароднікаў) да прадукцыі здаровых харчоў. Інаўгурацыя занятакў пачалася 20 кастрычніка г.г. у Картове каля Ольштына.

**Андрэй Гаўрылюк**

## НАШЫ МЯСЦОВАСЦІ

Аб сучасным стане блізкіх нам мясцовасцяў можна даведацца, агледзець іх, паразмаўляць з жыхарамі, але аб гісторыі — не так лёгка. Каб быць нам багатым ведамі, трэба было б і мінулае знаць. Вось возьмем этымалагічныя назвы некаторых вёсак: **Плёскі, Спічкі** і **Чэхі Арлянскія.**

### ПЛЁСКІ

Сённяшняя назва **Плёскі,** даўней Плескі. Першыя ўпамінанні аб ёй — з 1536 года. Назвы ўрочышч: Дубкі, Рэпіско, Дітковщчына, Дудкаў Груд, Локніца, Патькоў Багонец, Лазіннік. Лугі: Заріччам, Орабэзына, Ханікаў Бор, Могелкі, Надоўном, Яцьбоў Ез.

Прозвішчы жыхароў: Ігнацюк, Казлоўскі, Міхальчук, Федарук, Юзвюк, Філіпюк, Сцепанюк, Антанюк, Іванюк, Яканюк, Васілюк, Плісюк, Абрамюк, Леанюк, Стаў, Грыгарук, Сычэўскі і іншыя.

Цікавая назва ўрочышча: Яцьбоў Ез. Яцьбоў Ез, гэта ез (jaz) яцьвягаў. **Яз** — перагарода ракі для падняцця вады і лоўлі рыбы. Рабілі яз з лазы або з трасціны. Краеўскі пісаў, што ў Плёсках і Храбалах жылі „зрусіфікаваныя літвіны“, якія займаліся гадоўляй баброў для польскага караля. Каго называе Краеўскі літвінамі — ці жмудзінаў, ці беларусаў? Вядома многім, што ў XIX стагоддзі і жыхароў Белавежскай пушчы называлі і яшчэ называюць „ліцьвінамі“. А можа ў тых вёсках і жылі яцьвягі, якія „русіфікаваліся“?

### СПІЧКІ

Вёска недалёка ад Орлі, толькі 4 км на захад. Міхал Кандрацюк у сваёй кніжцы „Nazwy miejscowe południowo-wschodniej Białostocczyzny“ акрэслівае назву як родавую ад асадніка Спічкі. Назва вёскі Спічкі выступае ў 1570 годзе, калі была люстрацыя Падляшскага ваяводства. Люстрацыі былі ў каралеўскіх дабрах. Вёска Спічкі была вёскай горада Бельска і жыхары вёскі мелі гарадскія правы, гэта значыць — былі мяшчанамі.

У 1886 годзе Спічкі мелі 330 дзесяцін зямлі, у тым ворнай зямлі 313 дзес., лугоў і пасбішчаў 12 дзес. і 5 дзес. няўгоддзяў. Вёска акрэслівалася як „чыншовая“.

У „Слоўніку стараўкраінскай мовы“ ёсць прозвішча Шпіца. J. Nahorka i Szpica nie choteli toho że żdat i wstupili z nim w jednanie pered dobrymi lud'mi. (Kraków 1848).

### ЧЭХІ АРЛЯНСКІЯ

Едучы з Орлі ў Дубічы-Царкоўныя па добрай асфальтаванай дарозе, успомнілася мне, як называлася гэтая дарога даўней. Праўда, не была яна асфальтаваная, але была „гостінцем камянецкім“, значыць — гасцінцам да горада Камянец.

Урочышчы ў Чэхах захавалі свае назвы: Вейчыско, Гуцоўшчына, Пачайкі, Выраб, Мэжыстене, Порубы, Ковалёвэ, Валокі, Рачок, Узэнка Олось. Лугі: Жыюўшчына, Огула (луг і поле), Подозеро, Заозеро, Вэрбыннік, Шматы, Подельшчына, Кулікова Гора (узгорак), Багонэц.

Паміж Чэхамі а Вярстокам была калісьці шырокая дарога, а цяпер яшчэ яна ёсць, але вузенькая, якая завецца „дарогаю літоўскаю“, а поле за дарогай называецца „Літоўшчына“. Жыхароў Вярстка, Пасечнік, Палічнай і па сённяшні час называюць „ліцьвінамі“. Літоўская дарога вяла да Кляшчэль, але Кляшчэлі яна абмінала. Калі ехалі ці ішлі да Кляшчэляў — то заўсёды „літоўскай дарогай“. Высновы такія: гэта былая граніца паміж Каронай і Вялікім княствам Літоўскім.

Прозвішчы жыхароў вёскі: Масальскі, Андрасюк, Самасюк, Несцярук, Яканюк, Чыквін, Панфілюк, Рута, Тарасюк, Каўшук, Сахарчук. Літоўская дарога праходзіла так, як зараз жалезная дарога Кляшчэлі — Семяноўка. Значыць, „ліцьвінамі“ называліся беларусы, а яны жыхароў на захад ад дарогі, падляшан, называлі і яшчэ называюць „каралёўцамі“.

**М. Ляшчынскі**

## ВОДАПРАВОД

У вёсцы Тапаркі (Кляшчэлеўская гміна) ідуць работы пры пракладцы водапровода і хутка жыхары гэтай вёскі (я як пісьманосец абслугоўваю яе) будуць мець сваю здаровую і смачную ваду з крана. А варта напомніць, што з вадой тут заўсёды былі нейкія цяжкасці. Калі было сухое лета, дык у многіх сялян калодзежы высыхалі так, што можна было нават бульбу туды сыпаць на перахаванне.

Цяпер сітуацыя значна змяніцца ў карысць вёскі. Равы для труб водапровода капаюцца (пры згодзе вёскі) на абочыне вуліцы з аднаго боку, на месцы тратуара, хаця ходнікі яшчэ тут не пракладзены.

Гледзячы на ўсё гэта, я прыпамінаю з сумам той час, калі ў нас у Дубічах-Царкоўных, чатыры гады таму назад таксама праводзілі ваду. Мо тады было танней правесці ваду, але і сённяшня кішэнь селяніна вытрымае. Але ў нас тады, у час „сацыялізма“ рашала не грамадства, а адзінка. І тая „адзінка“ дала распараджэнне працаўнікам водаправоднай фірмы, каб яны капалі равы (вядома, машынамі) на нашых агародчыках ля вуліцы. Мы прасілі, каб трубы праходзілі пад тратуарам і каб не чапалі нашых панадворкаў і не нішчылі дагледжаных агародчыкаў. Але работнікам далі загад „ісці“ іменна агародчыкамі і тыя парылі іх, як свінні, панішчылі наш труд, зламалі платы.

І хаця „раны“ ўжо зажылі, як кажуць, то ў любы момант у агародзе ля вуліцы можа паявіцца прабоіна, і тады ізноў паявіцца капалка-бульдозер і ўсё пойдзе дагары нагамі, і з агародчыка застанецца толькі руіна і груды зямлі каля хаты.

А селянін зноў будзе корпацца, каб ўсё гэта направіць.

**Мікалай Панфілюк**

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**

# У ЦЯНІ ВАТЫКАНУ

### 2. У ВАТЫКАНЕ

Італьянская кава, хоць і самая лепшая ў свеце, мазгоў не прасвятляе. Магчыма, таму нават сам Усемагутны, як пагаворвае заслуханы мною анекдот, не ўсведамляе сабе трох спраў: колькі манашак на свеце, колькі ў Ватыкане грошай, ды не ведае таго, аб чым езуіты ведаюць. Асабіста я не наважыўся даследаваць аніводнае з гэтых трох праблем. Спыніўся я ўсяго на некалькіх неаспрэчных фактах.

Горад-дзяржава Ватыкан узнік у 1929 годзе ў выніку так званага латэранскага пагаднення паміж Касцёлам і Каралеўствам Італіі. Дзяржаўны лад Ватыкана — абсалютная тэакратычная манархія з Рымскім Папам на чале. Мяжа дзяржавы ідзе прыблізна так: звонку калон плошчы Святога Пятра, паўз сцены даўнай ватыканскай фартыфікацыі і недзе на ўзвышшы, за ватыканскімі агародамі. Фармальна ватыканскай тэрыторыяй з'яўляюцца яшчэ тры рымскія базілікі, адзін палац і летняя рэзідэнцыя Папы ў Кастэль-Гандольфа — маленькім мястэчку на паўднёвы ўсход ад Рыма. Усяго звыш сарака гектараў плошчы. Насельніцтва, як падаюць статыстычныя даведнікі, каля тысячы чалавек. Афіцыяльныя мовы ў Ватыкане — лацінская і італьянская. Да вонкавых праяў самастойнасці, між іншым, належаць: уласнае войска (швейцарская гвардыя), пошта, банк, крамы, штодзённая газета і радыёстанцыя, якая лікам моўных перадач параўнальная ў Еўропе толькі з брытанскай „Бібісі“. Варта таксама заўважыць, што ўсе афіцыяльныя візіты ў Ватыкане, дзеля адзначэння яго самастойнасці, як правіла, адбываюцца пасля заканчэння ўсіх сустрэч з італьянскімі ўладамі ў Рыме.

Самы характэрны элемент рымскага краявіду — ватыканская базіліка Святога Пятра, пабудаваная, праўдападобна, сваім левым нефам над гэтак званым цыркам Калігулі, месцам, дзе на схіле змрочнай старажытнасці шалёны імператар даканаў першых хрысціян. Сёння, акрамя свайго турыстычнага значэння, з'яўляецца базіліка месцам сустрэч Рымскага Папы з вернікамі і пілігрымамі, месцам святочных багаслужбаў, біскупскіх кансекрацый, беатыфікацый, kанaнізацый... Перад базілікай вялізная плошча, акружаная двума шэрагамі калон, якія ўгары завершаны фігуркамі святых. У цэнтры плошчы высозны абеліск, знойдзены ў руінах згаданага цырка Калігулі. На абодвух яго баках фантаны. Штонядзелі плошча запаўняецца жыхарамі Рыма, турыстамі і пілігрымамі з найбольш далёкіх частак свету. Прыходзяць, каб супольна з Папам адгаварыць апоўдні багародзічную малітву Анёл Гасподні. Малітву гэтую Папа звычайна папярэджвае разважаннямі на актуальныя грамадска-рэлігійныя пы-




## ХТО ВОРАГ?

У 42 нумары „Нівы“ ад 21 верасня г.г. быў змешчаны тэкст Сакрата Яновіча „Чыквіну трэба ворага“. У сувязі з тым, што тэкст гэты адносіцца да артыкула „Naprawiacze cerkwi“, змешчанага ў „Тыгодніку Падляскім“, № 7/8 з 1990 года, прашу надрукаваць яго ў „Ніве“.

Спадар Яновіч, умешваючы ў справу блізкую мне асобу, парушыў прынятыя звычаёва прынцыпы палемікі ў друку. У такой сітуацыі хачу паведаміць, што:

— хлуснёй з'яўляецца тое, што быццам бы аўтарам тэкста „Naprawiacze cerkwi“ была мая жонка;

— таксама хлуснёй з'яўляецца сцверджанне С. Яновіча быццам бы яна — каталічка;

— якія былі сапраўдныя намеры С. Яновіча ў артыкуле наконт сітуацыі праваслаўя („Тыгоднік Беластоцкі“, № 19), цяжка пазнаць. Аднак, у складанай міжрэлігійнай сітуацыі, якая існуе на Беласточчыне, з пазіцыі верніка Праваслаўнай царквы, можна ацаніць іх адназначна адмоўна;

— не з'яўляецца праўдай сцвярджэнне С. Яновіча, што Э. Жултоўская ў сваім тэксце прыпісвае яму аўтарства ліста, надрукаванага ў амерыканскай газеце „Беларус“, у якой быў заклік да беларусаў у ЗША і Канадзе спыніць фінансавую дапамогу ў пабудове Святадухаўскай царквы ў Беластоку. У артыкуле Э. Жултоўскай гэты ліст нават не ўпамінаецца. Калі, аднак, Яновіч кранае гэтае пытанне, то хачу прыпомніць, што я сам асабіста быў сведкам ягонага доўгага і эмацыянальнага выказвання, у якім ён высмейваў наіўнасць людзей з-за акіяна, дапамагаючым у пабудове царквы. Гаварыў ён сваю тыраду ў рэдакцыі „Нівы“ ў прысутнасці журналістаў. Магу падаць прозвішчы;

— хлуснёй з'яўляецца сцвярджэнне, што ў час выбарчай кампаніі, у якой я не сапернічаў з Яновічам, распаўсюджваў я аб ім нейкія плёткі.

У час сустрэч выбаршчыкі пыталі мяне пра іншых кандыдатаў, у тым ліку і пра Яновіча. У сувязі з тым, што я даваў адказы публічна, у прысутнасці соцень чалавек, лёгка звярыць, што я тады гаварыў.

Паводзіны беларускіх кандыдатаў у мінулай кампаніі гэта справа іх сумлення. Я гатовы публічна высвятліць справы кампаніі, у тым ліку фальшывыя закіды ў мой бок, фармуляваныя таксама і на старонках „Нівы“. Аб узроўні і метадах, прымяняемых такімі людзьмі, сведчыць хаця б хлусня С. Яновіча, які на старонках „Газеты Выборчай“ заявіў, што кандыдат у Сенат ад Праваслаўнага брацтва дацэнт Ян Піўнік выступаў у час кампаніі як „праваслаўны паляк“.

Як галоўны рэдактар адзінага ў Польшчы часопіса, прысвечанага праваслаўю, хачу паведаміць, што на працягу пяці гадоў нашага існавання мы намерана не вялі палеміку з антыправаслаўнымі выступленнямі некаторых беларускіх дзеячоў. Зыходзілі мы з пункту гледжання, што зразумеюць яны ўрэшце тую простую праўду, што Царква не з'яўляецца іх ворагам. Сапраўды, большасць з іх спыніла сваю антыцаркоўную дзейнасць. На жаль, спадар Яновіч да іх не належыць. У мяне ёсць падставы меркаваць, што спадар Яновіч з'яўляецца аўтарам ананімных публіцыстычных матэрыялаў, якія распаўсюджваліся ў апошнія гады на Беласточчыне, а ў якіх было мноства недарэчнасцяў, фальшу і нападкаў на праваслаўнае духавенства і дзейнасць Царквы. Калі памыляюся, дык з радасцю папрашу публічнага прабачэння ў спадара Яновіча.

Хачу заявіць, што мне не патрэбна, „каб нашы людзі сварыліся“. Сваё дарослае жыццё я прысвяціў аб'ядноўванню людзей. Аб'ядноўванню вакол Царквы. У мяне няма комплексаў з-за таго, што свой пасольскі мандат выконваю „з дазволу камуністаў“. Як пасол імкнуся добра служыць свайму народу і годна прадстаўляць сваіх выбаршчыкаў. Яшчэ ў часах, калі спадар Яновіч быў актыўным членам камуністычнай ПАРП, я быў суарганізатарам першай у блоку камуністычных дзяржаў арганізацыі праваслаўнай моладзі. Ідэаламі сваёй маладосці я ніколі не паступіўся і стараюся таксама і сёння быць ім верны.

Я буду абавязаны рэдакцыі „Нівы“, калі ў будучым, змяшчаючы інфармацыі аб блізкіх мне асобах, перад гэтым праверыць верагоднасць гэтых інфармацый.

З пашанай

**Яўген Чыквін**

* ✲ *

У 42 нумары „Нівы“ ад 21 кастрычніка 1990 г. надрукаваны артыкул Сакрата Яновіча „Чыквіну трэба ворага“. Наступны фрагмент гэтага артыкула датычыць і маёй асобы: *„Праваслаўнаму рэдактару польскага часопіса „Тыгоднік Падляскі“ Яўгену Чыквіну трэба ворага! Так я зразумеў надрукаваную ў апошнім нумары публікацыю „Паляпшальнікі Царквы“, напісаную яго каталіцкай жонкай Жултоўскай, вельмі дзіўным адвакатам праваслаўя“.*

У сувязі з гэтым хачу заявіць:

1. Я сапраўды з'яўляюся жонкай галоўнага рэдактара „Тыгодніка Падляскага“ Яўгена Чыквіна.

2. Я не аўтар артыкула „Naprawiacze Cerkwi“.

3. Я ніколі не выказвалася публічна на блізкія мне дзякуючы мужу беларускія пытанні, лічачы сябе ў гэтай галіне некампетэнтнай.

4. Я не называюся Жултоўская, а па мужу ў мяне прозвішча Чыквін; маё ж дзявочае прозвішча — Дабравольская. Я ніколі не ўжывала псеўданіма Жултоўская.

5. Я не каталічка, а праваслаўная і гэтым ганаруся.

Я хачу рашуча запратэставаць супраць публічнага прыпісвання мне поглядаў, якіх я не выказвала, супраць фальшывага інфармавання аб маім рэлігійным паходжанні, супраць інструментальнага выкарыстоўвання маёй асобы ў палеміцы з маім мужам.

**д-р Альжбета Чыквін**

* ✲ *

**АД РЭДАКЦЫІ**: Каб наблізіць нашым чытачам сутнасць палемікі паміж Сакратам Яновічам і Яўгенам Чыквінам, друкуем абшырны фрагмент артыкула „Naprawiacze Cerkwi“, той, які выклікаў гэтую спрэчку.

**NAPRAWIACZE CERKWI**

**(...)**

**Jest, jak powiedzieliśmy, prawem liderów BNF gloryfikowanie unii.**

**Sprawa ma jednak jeszcze inny bezpośrednio dotyczący nas, prawosławny aspekt. Otóż nawet dla zupełnie indyferentnych religijnie ludzi porzucenie wiary swych ojców nie jest rzeczą łatwą. Preferowanie unii to za mało. Konieczne jest równoległe przedstawianie prawosławia w jak najmniej korzystnym świetle. I to jest druga strefa aktywności „patriotów białoruskich”. Niestety, ich poczynania w tym zakresie znajdują zwolenników i naśladowców i na naszym, białostockim gruncie. Szeregi takich „naprawiaczy” Cerkwi powiększają się o nowych aktywnych działaczy. Dołączył do nich znany białoruski pisarz, lider Białoruskiej Demokratycznej Partii, Sokrat Janowicz. Już w latach poprzednich uznał on za stosowne ganić Białorusinów z Kanady i USA za okazywaną pomoc przy budowie cerkwi św. Ducha w Białymstoku: „w cerkwi tej nie usłyszysz ani słowa po białorusku”. Ostatnio pisarz zaczął „przybliżać” prawosławie polskiemu czytelnikowi. W 19 numerze „Tygodnika Białostockiego” (piśmie członków i sympatyków „Solidarności”) w artykule „Sprzeczka o dusze” prawosławie, zdaniem Janowicza, „charakteryzuje się brakiem ducha misyjnego”, „programowo uznaje postawę lojalizmu wobec każdych władz państwowych”, co uzależnia pozycję Cerkwi od „przyszłych losów aktualnego reżimu”. Artykuł zilustrowano fotografią zamkniętych i przekreślonych czarnymi ukośnymi liniami drzwi świątyni prawosławnej. Swój stosunek do prawosławia Sokrat Janowicz wyraził już otwarcie w „Kurierze Porannym”. Otóż stwierdził on ni mniej ni więcej: „Patrioci białoruscy nie utożsamiają się ani z Kościołem prawosławnym, ani z katolickim. To ich utożsamiają z prawosławiem”.**

**Z jakim wyznaniem utożsamia się S. Janowicz i identyfikujący się z nim działacze BDP, jak na razie pisarz nie poinformował. Jednak w świetle ostatnich wydarzeń na Białorusi staje się to, przynajmniej dla nas, oczywistym.**

**E. ŻÓŁTOWSKA**
**„Tygodnik Podlaski”, nr 7—8 (64)**

---

танні. У час вялікіх свят, як Каляды і Вялікдзень, адгэтуль раздаюцца словы паслання „Гораду і свету“ ды святочныя пажаданні на звыш шасцідзесяці мовах, у тым ліку і па-беларуску. „Дарагія беларусы! Вясёлых Вялікодных святаў!“ — прагучала сёлета.

Кожнае серады адбываецца ў Ватыкане сустрэча Рымскага Папы з вернікамі і пілігрымамі — гэтак званая агульная аўдыенцыя. Выглядае яна так, што Папа чытае па-італьянску галоўную частку катэхізісу, а за гэтым ідзе яго змест на англійскай, нямецкай, французскай і іспанскай мовах. На заканчэнне аўдыенцыі адбываюцца прывітанні паасобным групам пілігрымаў.

Сляды беларушчыны ў сусветнай сталіцы каталіцтва знаходжу ў Ватыканскай радыёстанцыі. Сама радыёстанцыя, якая неўзабаве будзе адзначаць шасцідзесяцігоддзе, была створана ў 1931 годзе самім вынаходцам радыё Гульельма Марконі. Урачыста адкрыў яе тагачасны Папа Пій XI, даручаючы кіраўніцтва ёю святарам-езуітам. Сёння працуе ў радыёстанцыі каля чатырохсот чалавек, большасць якіх — людзі свецкія. Штодзённа ідуць адгэтуль у эфір перадачы на звыш трыццаці мовах свету. Паасобнымі моўнымі секцыямі радыёстанцыі кіруюць найчасцей ксяндзы-езуіты. Гэта, аднак, не правіла, бо калі краіна, на мове якой перадаецца праграма, у малой ступені каталіцкая, дык здараецца, што кіруе данай секцыяй у радыё свецкая асоба, а сярод супрацоўнікаў можна сустрэць людзей мясцовага не-каталіцкага веравызнання.

На першым паверсе Палаца Піо, сядзібы рэдакцый Ватыканскай радыёстанцыі, у суседстве рускай і румынскай знаходзіцца і беларуская рэдакцыя. Узначаліў яе ў 1949 годзе ксёндз рыма-каталіцкага веравызнання Пётр Татарыновіч. Тады і пачаліся першыя нерэгулярныя перадачы на беларускай мове. Ксёндз Татарыновіч доўгія гады працаваў над перадачамі адзін, рэдагуючы, акрамя гэтага, рэлігійна-адраджэнскі часопіс „Зніч“. Сёння беларускія перадачы па Ватыканскім радыё перадаюцца кожнага дня. Падрыхтоўкаю іх займаюцца тры пастаянныя рэдактары і некалькі вонкавых супрацоўнікаў. Кіраўніком беларускай секцыі з'яўляецца айцец Роберт Тамушанскі — святар уніяцкага веравызнання, ураджэнец ЗША, а грамадзянін Вялікабрытаніі, чалавек надзвычай багатага і складанага жыццёвага лёсу. Дагаварыцца з ім няцяжка, бо валодае больш чым дзесяццю мовамі, а ў тым ліку, варта тут адзначыць, арабскай. Ужо больш за семнаццаць гадоў прапаведуе з Пятровага Пасада слова праўды і надзеі. У беларускай секцыі працуюць яшчэ Ян Мойсік з Бельшчыны і Васіль Ногас — ураджэнец Бразіліі украінскага паходжання. Ян Мойсік, акрамя звычайнай рэдактарскай працы, займаецца яшчэ выдавецкай дзейнасцю. Ягоны бюлетэнь „Хрысціянскія навіны“ — гэта своеасаблівая кампіляцыя самых цікавых вестак і гутарак, перададзеных Ватыканскім радыё. Васіль Ногас з'яўляецца выдатным спецыялістам у грамадска-рэлігійных пытаннях рэгіёна Лацінскай Амерыкі.

Абышоўшы рэдакцыі Ватыканскай радыёстанцыі, перакануўся я, што адгэтуль перадаюцца праграмы ў такія рэгіёны свету, пра якія ніколі не падумаеш, што маюць яны што-кольвечы супольнае з хрысціянствам. Вядомая з гісторыі Каталіцкая царква ўсходняга абраду на Беларусі, гэтак званая уніяцкая царква, гэта ўсяго кропля ў моры разнастайнасці абрадаў Каталіцкага касцёла. Што ж, энергічныя місіянеры-езуіты, сапраўдны рухавік ватыканскай палітыкі, пашыраючы каталіцызм, ішлі нярэдка на кампрамісы ў абрадавым баку ўсяе справы. Мэта лічылася дасягнутай, калі насельніцтва данага рэгіёна, або адукаваная яго частка, прымала асноўныя догмы каталіцтва, а ў літургічным абрадзе далей заставаліся элементы мясцовай традыцыі. І так дайшло, між іншым, да стварэння Каталіцкага касцёла кітайскага абраду. Папства, аднак, спыніла такую дзейнасць.

*(Працяг будзе)*

# У НАШЫМ МУЗЕІ



Нядаўна „Ніва" друкавала рэпартаж аб адкрыцці Беларускага музея ў Гайнаўцы. Сёння прапануем фотарэпартаж, бачаны аб'ектывам гайнаўскага фатографа **Уладзіслава Завадскага.**



*На адкрыцці музея выступіў вядомы беларускі мастак Аляксей Марачкін. Яго палотны, а таксама працы іншых беларускіх мастакоў з групы „Пагоня", упрыгожылі адкрыццё музея багатай выстаўкай.*



*Канстанцін Майсеня, старшыня Камітэта пабудовы музея, расказвае гасцям з Беларусі аб клопатах, з якімі сустракаецца будаўніцтва музея.*



*Самаробны такарны станок — адзін з найцікавейшых экспанатаў музея. Ля яго заўсёды збіраюцца мужчыны.*



*Старшыня ГП БГКТ Алесь Баршчэўскі ў зале экспанатаў народнай творчасці.*

# АРЛЯНЦЫ ПАДРУЖЫЛІСЯ З МІНЧАНАМІ

Як вядома, ад мінулага года паміж БГКТ і таварыствам „Радзіма" з Мінска усталявалася цесная сувязь. У дагаворы, які быў падпісаны, прадбачваўся ўсебаковы абмен дэлегацыямі з розных асяроддзяў. Наладжаны таксама сувязі з Таварыствам беларускай мовы і іншымі арганізацыямі.

Сёння на Беласточчыне можна часта сустрэць гасцей з Беларусі. Найчасцей прыязджаюць людзі культуры: мастакі, спевакі, музыканты, акцёры, фільмоўцы, вучоныя; прыязджаюць таксама дзеці. На Беларусь часта выязджаюць прадстаўнікі Беласточчыны. Там яны знаёмяцца з жыццём і працай савецкіх беларусаў, з цікавейшымі гістарычнымі і культурнымі помнікамі Беларусі.

Гэткія кантакты збліжаюць людзей, мацнее дружба і ўзаемаразуменне. Асабліва цешыць, што ў гэткіх кантактах не адстаюць малыя мясцовасці. Адной з праяў гэтага з'яўляецца дружба арлянцаў з мінчанамі.

Ад 2 да 9 лістапада г.г. у Орлі прабывала група вучняў мінскіх сярэдніх школ і ГПТУ (гарадскіх прафесіянальна-тэхнічных вучылішч). Рэспубліканская станцыя юных турыстаў у Мінску трымае цесны кантакт з арлянцамі і на гэты раз зманта-вала групу з 28 асоб.

А трэба сказаць, што была гэта ўжо чацвертая іх сустрэча, хаця толькі ў мінулым годзе дырэктар школы ў Орлі Анатоль Мартыновіч упершыню прывёз сваіх дзяцей у Мінск. І вось ужо паспелі яны пабываць там і другі раз, ды два разы прынялі гасцей у Орлі.

Дзеці вельмі задаволены экскурсіяй на Беласточчыну, у Польшчу. Пазнаёміліся яны тут з жыццём арлянскіх школьнікаў. Пабывалі не толькі ў Орлі, але наведалі бліжэйшыя гарады — Бельск, Гайнаўку, Цехановец. З'ездзілі таксама ў Беласток і Варшаву. Завялі мноства прыватных знаёмстваў, сардэчна пасябравалі з нашай моладдзю.

8 лістапада, на развітанне, мінчане далі канцэрт, а пасля адбылася невялікая дыскатэка для моладзі.

Арлянцы плануюць яшчэ больш пашыраць кантакты з мінчанамі. У бліжэйшым часе дагаварыліся яны арганізаваць дзве сустрэчы настаўнікаў (адну — у Мінску, другую — у Орлі). Спадзяемся, што і настаўнікам такія формы збліжэння беларусаў, якіх дзеліць толькі дзяржаўная мяжа, прынясуць вялікае задавальненне.

**Ада Чачуга**

# Здзяйсненні і намеры

**(Працяг са стар. 1)**

арганізавала карнавальныя гульні. Супольна з Царкоўным брацтвам была наладжана забава для 180 дзетак і самастойна — для 100.

Самым буйным мерапрыемствам, арганізаваным Беларускім таварыствам у мінулым сезоне быў I Фестываль беларускай песні, а аб яго маштабе сведчыць тое, што на працягу двух дзён на эстрадзе амфітэатра выступіла 162 асобы, у тым ліку 7 салістаў, 2 дуэты, 10 калектываў, 3 хоры. З Беларусі прыехала 37 удзельнікаў, у тым ліку 3 салісты, 2 дуэты, адзін фальклорны калектыў і рок-гурты: „Мроя", „Уліс" з Мінска і „Грамада" з Віцебска. Канцэрты згуртавалі звыш трох тысяч гледачоў. У падрыхтоўцы фестывалю прымалі ўдзел спецыялісты з Беларусі і група студэнтаў-дэкаратараў. Аб фестывалі былі зроблены 4 тэлеперадачы (Вроцлаў, Беласток, Мінск — па 30 мінут і Гродна — 5 мінут) і 2 перадачы па Мінскаму радыё. Фестываль быў найбольш эфектнай беларускай імпрэзай і быў добра ўспрыняты польскім друкам у нашым рэгіёне. Беларускаму таварыству і яго нешматлікім працаўнікам удалося зрабіць тое, чаго не змаглі зрабіць сотні людзей, працуючых у культурных установах нашага ваяводства. Трэба таксама адзначыць, што пры арганізаванні фестывалю выдатна дапамаглі нашыя грамадскія дзеячы. Такі фестываль павінен працягвацца і ў будучым.

У фестывалі прымалі ўдзел пераможцы конкурсу „Беларуская песня '90", які праводзіўся на пару месяцаў раней. Гэты конкурс мае шматгадовую традыцыю. Сёлета ў конкурсе прымала ўдзел 232 самадзейнікі, з таго 184 асобы выступілі ў цэнтральным аглядзе ў Беластоку. Госцем конкурсу быў фальклорны калектыў „Чабарок" з Іўя (БССР).

Іншым, не менш важным, масавым мерапрыемствам, наладжаным нашым таварыствам, было Купалле. 6/7 ліпеня г.г. у Белавежы выступалі апрача нашых мясцовых калектываў ансамблі з БССР: „Заслаўскія летуценнікі", хор Дома культуры Торфапрадпрыемства Лідскага раёна, хор з Пружан і камерны хор з Гродна. На купальскія святкаванні ў Гродна былі запрошаны нашы калектывы: хоры з Беластока, Гарадка і „Хлопцы-рыбалоўцы".

„Басовішча" — першы фестываль маладзёжнай песні ў Гарадку — адзначаем таму, што наш бок прымаў удзел у планаванні і фінансаванні гэтага мерапрыемства. Рэалізавала яго выключна моладзь з БАСу. Фестываль трэба ацаніць як адну з найважнейшых падзей у беларускім культурным жыцці апошняга часу. Дае ён надзею на ажыццяўленне працэсу беларускага адраджэння на Беласточчыне.

Незакончаны яшчэ агляд тэатральных калектываў. Да гэтай пары ў ГП БГКТ адбыліся чатыры спектаклі тэатральных калектываў з Беластока, Іўя

**НІНА АМЕЛЬЯНЮК**

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

## IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

### 12. Дзеепрыметнік[1].

Дзеепрыметнік — форма дзеяслова, якая абазначае прымету асобы ці прадмета паводле дзеяння. Дзеепрыметнік спалучае ў сабе асаблівасці дзеяслова і прыметніка.

Дзеепрыметнікі ўтвараюцца ад дзеясловаў і, у сувязі з гэтым, маюць агульную з імі аснову і агульнае лексічнае значэнне: *напісаць апавяданне — напісанае апавяданне, скасіць траву — скошаная трава, зжаць жыта зжатае жыта.*

Як і дзеяслову, дзеепрыметніку характэрныя наступныя граматычныя катэгорыі:

— часу (цяперашняга і прошлага): *квітнеючыя цюльпаны* (цюльпаны, якія квітнеюць), *пераспелыя ягады* (ягады, якія пераспелі),

— стану (незалежнага і залежнага): *апалае лісце* (лісце, якое апала), *высечаныя дрэвы* (дрэвы, якія высеклі),

— трывання (незакончанага і закончанага): *надыходзячы дзень* (дзень, які надыходзіць), *напоеная жывёла* (жывёла, якую напаілі).

і сінтаксічная асаблівасць: дзеепрыметнік, як і дзеяслоў, кіруе назоўнікам: *напісаць алоўкам — напісаны алоўкам* (верш), *зжаць сярпом — зжатае сярпом* (жыта).

Як і прыметніку, дзеепрыметніку характэрны формы:

— роду: *зрыжэлая трава, зрыжэлы клён, зрыжэлае дрэва,*

— ліку: *напісаны твор, напісаныя творы,*

— склону: Н. *сабраны ўраджай*, Р. *сабранага ўраджаю*, Д. *сабранаму ўраджаю*, В. *сабраны ўраджай*, Т. *сабраным ураджаем*, М. (аб) *сабраным ураджаі,*

— поўныя і кароткія формы: *прачытаная аповесць — аповесць прачытана, развалены дом — дом развален, звезенае збожжа — збожжа звезена.* Кароткія дзеепрыметнікі не скланяюцца. Яны ў беларускай мове выступаюць вельмі рэдка.

У сказе кароткія формы выступаюць у сінтаксічнай функцыі *выказніка:* „Белыя сыплюцца долу крышталікі, белыя крышацца хмаркі ўгары, сосны захутаны ў белыя шалікі, белая мітусь у белым бары". (Гіл.), дзе: *захутаны* — выказнік. Поўныя формы выступаюць у ролі *азначэння* або *выказніка:* „Праз расчыненыя вокны ў хату залятаў свежы вецер, насычаны мядовым пахам расцвіўшага пад вокнамі бэзу". (Хадк.), дзе: *расчыненыя, насычаны, расцвіўшага* — азначэнні; „Лес быў пасярэбраны сівізной марозаў, зямля была цвёрдая і гучная". (Бяд.), дзе: *быў пасярэбраны* — выказнік.

Калі пры дзеепрыметніку выступаюць паясняльныя словы, утвараецца *дзеепрыметнае словазлучэнне*, якое з'яўляецца словазлучэннем сінтаксічна непадзельным, г.зн. што ў сказе выступае як адзін член сказа: „Прарэзаная праз лясныя нетры, (прасека) зачаравала мяне сваім хараством". (Панч.), дзе: *прарэзаная праз лясныя нетры* — азначэнне.

### УТВАРЭННЕ ДЗЕЕПРЫМЕТНІКАЎ

**Дзеепрыметнікі незалежнага стану**

| цяперашні час | прошлы час |
|---|---|
| 1. аснова дзеяслова цяперашняга часу незакончанага трывання + суфіксы: *-уч- (-юч-)* для дзеясловаў I спражэння: *квітнеючыя* ружы; *-ач- (-яч-)* для дзеясловаў II спражэння: *дрыжачыя* галінкі | 1. аснова інфінітыва непераходных дзеясловаў закончанага трывання + суф. *-л-*: *пастарэлы* бацька: 2. аснова інфінітыва пераходных і непераходных дзеясловаў закончанага трывання + суфіксы: *-ш-* (да асновы на зычны): *засохшая* трава, *-ўш-* (да асновы на галосны): *успыхнуўшыя* агні. |

**Дзеепрыметнікі залежнага стану**

| цяперашні час | прошлы час |
|---|---|
| (адсутнічае) | 1 аснова інфінітыва пераходных дзеясловаў закончанага трывання + суфіксы: *-н-* (калі аснова на *а(я)*: *стрыманы, абстраляны;* *-ен-, -ан-* (пры аснове на зычны або на *і (ы), е);* *-ен-* (пасля галосных і мяккіх зычных): *асвоіць — асвоены, прывезці — прывезены;* *-ан-* (пасля зацвярдзелых зычных): *дагледжаны, запрошаны:* *-т-* (ад дзеясловаў, што ў інфінітыве заканчваюцца на *-аць (-яць), -іць (-ыць)*, бесприставачная частка якіх аднаскладовая): *зжаць — зжаты, звіць — звіты;* (ад дзеясловаў з асновай інфінітыва на *о, у, ну, р)*: *апалоць — аполаты, абуць — абуты, апрануць — апрануты, падперці — падперты.* |

Дзеепрыметнікі могуць страчваць дзеяслоўнае значэнне і пераходзіць у разрад прыметнікаў (з'ява ад'ектывацыі).

У сучаснай беларускай мове пераважна як прыметнікі ўжываюцца дзеепрыметнікі цяперашняга часу: *стаячая вада, ляжачы камень, дрымучы лес, калючы дрот.*

Пераход у разрад прыметнікаў назіраецца таксама ў групе дзеепрыметнікаў з суфіксамі *-л-, -н-, -ен-, -ан-*: *рослы хлопец, вершаваны твор* Дзеепрыметнікі з суфіксам *-ан-* часта мяняюць месца націску: *нескАнчоны шлях, незлічоныя дні.*

---

[1]. Літаратура: Н. В. Гаўрош, М. Ф. Гуліцкі, Дзеепрыметнік, у: Сучасная беларуская літаратурная мова. Марфалогія пад рэд. Ф. М. Янкоўскага, Мінск, с. 173—180; Беларуская мова пад рэд. А. М. Клачко, ч. 1, Мінск 1982, с. 269—276.

---

(БССР), Лялечнага тэатра з Гродна і Тэатра аднаго акцёра (Галіны Дзятілевай) з Мінска.

БГКТ арганізавала Лялечнаму тэатру з Гродна (16 чалавек) пяць спектакляў: у Бельску-Падляшскім, Орлі, Гайнаўцы, Трасцянцы, Беластоку і восем спектакляў Галіне Дзягілевай у гарадах і вёсках Беласточчыны. Выступаў таксама Яўген Бароўскі — эстрадны акцёр з Мінска. Прадбачваюцца яшчэ спектаклі калектыву з Паўлаў і „Парнаса".

Летам праводзілася вандроўка моладзі па Беласточчыне з удзелам студэнтаў Інстытута культуры ў Мінску. У вёсках і мястэчках, якія знаходзіліся на шляху вандроўкі, былі арганізаваны канцэрты. Арганізатарам і кіраўніком гэтай формы культурнай працы быў Ян Мордань.

БДА і БГКТ былі арганізатарамі гістарычных семінараў з нагоды 63-яй гадавіны разгрому „Грамады" (Гайнаўка, 4 даклады) і 72-ой гадавіны ўзнікнення БНР (Беласток, 4 даклады).

Наша таварыства прымала ўдзел у выбарах у самаўрады. Найлепшыя вынікі атрыманы ў Белавежы, дзе 7 членаў былі выбраны раднымі, і ў Мілейчыцах — 9 членаў БГКТ. БГКТ прымала ўдзел і ў акцыі арганізавання адпачынку дзецям, пацярпеўшым ад чарнобыльскай катастрофы. Асаблівую ахвярнасць выказалі працаўнікі Галоўнага праўлення таварыства ў забеспячэнні пабыўкі 103-асабовай групы дзяцей у верасні г.г., за што належыцца ім вялікая падзяка.

Галоўнае праўленне БГКТ гасцявала і арганізавала пабыўку дэлегацыі ад Таварыства беларускай мовы і (супольна з Беларускім дэмакратычным аб'яднаннем) групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР. Беларускія дэпутаты сустракаліся з дзеячамі ўсіх беларускіх асяродзяў, войтамі гмін і з куратарам асветы і выхавання ў Беластоку Пятром Літэрмусам. У гміне Орля быў падпісаны кантракт на безвалютны тавараабмен.



**Конкурс „Беларуская песня" мае шматгадовую традыцыю. Жаночы калектыў з Беластока ў „Беларускай песні '90" заваяваў другое месца. Фота С. Грынявіцкага.**

Завяршэннем мінулага сезона была, здаецца, гістарычная падзея ў жыцці нашай грамадскасці — адкрыццё Беларускага музея ў Гайнаўцы, якое адбылося 27 кастрычніка. Першая выстаўка „Жыве Беларусь!" была наладжана пры выдатнай дапамозе ўстаноў з Беларусі.

Уся грамадска-культурная і асветніцкая дзейнасць таварыства вялася на сродкі Міністэрства культуры і мастацтва і пры дапамозе Ваяводскага дома культуры і Куратарыі асветы і выхавання ў Беластоку. Гэтым установам выказваем сардэчную падзяку.

Перад намі новы культурна-асветны сезон 1990/1991. Пачынае яго першы агляд беларускіх фільмаў з удзелам беларускіх рэжысёраў, сцэнарыстаў і акцёраў. На працягу тыдня на 28 сеансах з найлепшымі сучаснымі кінафільмамі знаёміцца будуць жыхары Беластока і ваяводства. У планах на новы сезон прадбачваем тыя традыцыйныя формы працы, якія ўжо праверany і маюць сваіх прыхільнікаў. Будзем ладзіць канцэрты нашых і замежных калектываў, арганізаваць сустрэчы з паэтамі-„белавежцамі" і з Гродзеншчыны, праводзіць конкурсы і агляды. У лютым адбудзецца фінал конкурсу „Беларуская песня '91", а ўлетку тыдзень беларускай культуры і II фестываль песні.

Прыедзе да нас на гастролі тэатр мастацкага слова Педагагічнага інстытута з Мінска, будуць выстаўкі беларускіх мастакоў. Прадбачваецца стварыць умовы для вядзення відэахронікі беларусаў Беласточчыны і заснавання сваёй паліграфічнай базы. Будзе ў далейшым пашырацца супрацоўніцтва з Беларуссю. Дзякуючы супрацоўніцтву з Беларускім фондам культуры, таварыствам „Радзіма", Таварыствам беларускай мовы і іншымі ўстановамі плануем:

— выезды на гастролі па Беларусі нашых дзіцячых тэатральных гурткоў і каляднікаў.

— удзел трох нашых калектываў на Купаллі ў Мінску,

— выстаўку нашых мастакоў на ВДНГ у Мінску,

— выстаўку дзіцячых малюнкаў,

— гастролі нашых выканаўцаў на Беларусі („Альбаросіка", А. Дубец, Ю. Кардзюкевіч і іншыя),

— арганізацыю адпачынку для 150 дзяцей у лагерах на Беларусі.

Мастакі з Беларусі дапамогуць выканаць інтэр'ер у будынку БГКТ. Наладжваецца дзелавая сувязь з беларускім тэлебачаннем і кінастудыяй.

Здаецца, што нашы прапановы даволі багатыя і кожны можа сабе знайсці штосьці цікавае. Усіх беларусаў і сімпатыкаў нашай культуры запрашаем прыняць удзел у мерапрыемствах, якія мы будзем наладжваць.

**Віктар Стахвюк,**
**сакратар ГП БГКТ**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Васьмікласнікі са школы ў Махнатым са сваёй выхавацелькай — настаўніцай беларускай мовы Аннай Гаўрылюк.* *Фота Я. Чэрнякевіч.*

Янка Брыль

## Жыў-быў вожык

Пачынаецца казачка так. Жыў-быў вожык у лесе, а потым узяў ды памёр...

Ды не той, пра якога я хачу расказаць, а другі, зусім іншы — вялікі, стары...

А нашага Тупалу тата зла́віў у лесе і прынёс у кішэні дахаты. І гэта не казка, а праўда.

Я быў яшчэ такі малы, што нават не хадзіў у школу.

Тупала быў таксама малы, круглы, як шэры клубок, і калючы.

Тата вярнуўся з лесу і сказаў:

— Ну, Лёнік, я прынёс табе яблык.

Ад радасці я забыўся, што яшчэ вясна, што яблыкаў яшчэ няма, і ўсадзіў руку ў татаву кішэню.

— Ай! — ускрыкнуў я, укалоўшы аб нешта пальцы.

І хацеў ужо нават заплакаць, але тата мой засмяяўся.

— Дзівак-чалавек, укалоў ды злуецца! — сказаў ён. — Ды гэта ж лепей за яблык, ты паглядзі!

І ён выняў з кішэні маленькі калючы клубок.

Спачатку вожык наш ніяк не называўся. Ён нават разгортвацца не хацеў: як палажылі яго ў кутку, пад маім ложкам, так і ляжаў. Не на голай падлозе, а на імху. Тата сцягнуў граблямі са страхі старога хлява тры купіны моху, паслаў у кутку — і выйшла пасцель.

Мох зялёны, пушысты і цёплы. А шэры клубочак ляжыць на ім і не хоча разгортвацца. Я наліў яму ў сподак малака і паставіў каля самага моху. А вожыку хоць бы што...

Тады я лёг побач з ім на падлозе і хацеў ляжаць, пакуль ён не разгорнецца.

На двары змяркалася, і пад ложкам рабілася цёмна.

— Дурненькі ты, — сказала мама. — Ты яго толькі не чапай, ён і сам малако тваё знойдзе.

І праўда, толькі я лёг у ложак і ў хаце зрабілася ціха, як у куточку пад ложкам нешта ціхенька заварушылася і пачало гэтак чмыхаць:

— Ту-ту-ту-пых! Ту-ту-тупых!

А потым па дошках падлогі затупацелі маленькія мяккія ножкі.

— А што, не гаварыла я, — сказала мама. — Не палохайце яго, дык ён і малако пачне хлябтаць.

І праўда, мы памаўчалі, і неўзабаве пачулася, як нехта маленькі хлебча. Не так, як кот, а так, як парасяты, — плямкае.

— Ой, тата, я пагляджу!

Тата даў мне запалкі. Я ціхенька злез на падлогу, укленчыў, нагнуўся пад ложак і выняў з карабка запалку. Але як толькі яна чмыхнула і засвяціла, каля сподка я ўбачыў той самы калючы клубок.

Ды ён ужо ляжаў не на імху, а на голай падлозе, і малака ў сподачку было менш, як раней...

Клубок тупаеў усю ноч, і за гэта мы пачалі яго называць Тупалам. А за тое, што ён хутка перастаў баяцца і не згортваўся больш, калі я пазіраў на яго, я ніколі не забываўся даваць яму есці.

Спачатку даваў толькі малако, а потым аднойчы разбіў яму на сподак яйка. Тупала лішне не казырыўся, — панюхаў трохі і пачаў хлябтаць.

З нашым цюцікам Мурзам ён не хацеў сябраваць. Як толькі ўбачыць яго — у клубочак, і ўсё. Шчанюк спачатку хацеў панюхаць вожыка: дакрануўся носам да шэрых іголак, заматаў галавой і фыркнуў — не спадабалася. Тады ён прысеў, абняў клубок лапамі і паспрабаваў яго ўкусіць. Але зноў укалоўся, ды гэтак балюча, што зазлаваў і пачаў уядацца, брахаць. Скакаў, скакаў вакол клубка, а потым яшчэ раз асмеліўся дакрануцца. Ударыў клубочак лапай, як кот па мячыку, заскуголіў, адбегся і лёг.

„Добрыя гулі, — хацеў сказаць ён, — я забаўляцца з табой хачу, а ты — нягодны, колешся".

Ды ён не сказаў гэтага, а толькі лізаў сваю лапу і скардзіўся, хныкаў.

Вусаты Фядот любіў грэцца на сонцы, калі яно свеціць у хату. Сядзе на падлозе, зажмурыцца і мурлыча. На Тупалу ён і глядзець не хацеў, не толькі што з ім гуляць. І нават калі клубочак разгарнуўся аднойчы, сам падыйшоў да ката і, наставіўшы лычок, панюхаў, наш Фядот толькі лыпнуў спрасонку вачыма, і ўсё. Сядзіць сабе, дрэмле, мурлыкае.

Няма з кім Тупалу пасябраваць.

І стала вожыку сумна.

У кухні нашай жыла квактуха з куранятамі. Спачатку яны былі маленькія, нібы камочкі жоўтага пуху, і ўсё пішчалі, дзяўбалі тварог і мітусіліся па земляной падлозе кухні, як сонечныя зайчыкі. А потым вы-

(Працяг на стар. 10)

Вершы Віктара Шведа

### БЛЕДНЫ МЕСЯЦ

— Чаму ты бледненькі бясконца,
Чаму халодны без патрэбы?
У месяца спытала сонца,
Вандруючы ў прасторах неба.

— Калі б ты бачыла ўсё гэта,
Што ноччу на зямлі я бачу,
Палову страціла б ты свету,
І пабляднела б, не іначай.

### НЕ Я ЗАБЛУДЗІЎСЯ

Шмат народу топча
Ля хлапца малога.
— Заблудзіўся хлопчык, —
Паднялі трывогу.

Надзвычай здзівіўся
Хлопчык зухаваты.
— Не я заблудзіўся,
Толькі мама з татам.

### ШТО ІДЗЕ Ў НЕБА?

Вясной малы Андрэй
Паехаў з сваім татам
У гарадскі музей,
Дзе многа экспанатаў.

Убачыўшы шкілет
Пытаецца тым часам:
— Ці у нябесны свет
Ідзе дык толькі мяса?

### ПЛАЦІЦЬ ЗА ЗЛО ДАБРОМ

— Ты, татка, мне няспынна
Сцвярджаеш з асалодай,
Што мы плаціць павінны
За зло дабром заўсёды.

Тады мне сёння грошы
Ты, татка, даць павінен.
Я ж папсаваў харошы
Твой новенькі гадзіннік.

### ЦІ ВАРТА ГАВАРЫЦЬ?

— Колькі табе год, Валерка?
Адкажы, сынок,
А я дам табе цукерку
За кожны гадок.

— Што дасце цукеркі — веру,
Не трэба ж маніць.
Ці ж за шэсць адно цукерак
Варта гаварыць?

### ЦЯЖКІ ХАРАКТАР

Здзіўляецца Сярожа
І з недаверам кажа:
— Дык гэта ж быць не можа,
Каб я так многа важыў!

— Вага здаецца фактам,
Не зменіш тут нічога.
Цяжкі ў цябе характар,
Таму і важыш многа.

### У ЗААПАРКУ

— Скажы мне, моладзь дарагая,
Чаму ў дарослага ільва
Грыва вялікая такая,
Вялізарная галава?

Адказваюць гурмою дзеткі:
— Таму такі агромны леў,
Каб не праціснуўся ён з клеткі
І тут кагосьці з нас не з'еў.

### ЯК МАЕ ЛІДКА АШЧАДЖАЦЬ СШЫТКІ

— Слухай, дачуся Лідка,
Прашу, запамятай:
Табе купіла сшыткі,
Дык ты іх ашчаджай.

— Тады скажы мне, матка,
Як мне іх ашчаджаць,
На чым жа на занятках
У школе мне пісаць?

## ЖАБІНЫ КАЗКІ

* ✲ *

Жыла-была жаба Піпа. І вось яна вырашыла, што яна ніякая не жаба, а самы праўдзівы бык. Прышла яна на жывёлагадоўчую ферму і гаворыць:

— Нашто вам бык, я сама бык, толькі лепшы.

А старшыня калгаса кажа:

— Вось здорава, такая малая, а бык! І есць менш, і месца мала займае. Прагонім нашага быка або яшчэ лепш зарэжам.

Хацелі праўдзівага быка зарэзаць, але той уцёк. А Піпа засталася.

Праз год прышоў старшыня пагледзець, ці добра каровам з новым быком. Глядзіць: усе каровы ляжаць і плачуць. А дзве, найлепшыя, наогул памерлі.

— Які з цябе бык?.. — пытае старшыня Піпу. — Ты не бык, а нейкая жаба!

Пакрыўдзілася Піпа і паскакала. Прышлося старшыні ісці і пакланіцца праўдзіваму Быку. Добра, што тады не зарэзалі.

**Сяргей Сядоў**

# ПАРОДЫ

### БЕДНЫ КОНЬ

*Ах, мілы конь, ах, мілы косю,*
*Прабач за даўні здзек. Даруй,*
*Што запрагаў цябе ў калёсы,*
*Што й сёння на табе ару.*

*ЯНКА СІПАКОЎ*

Ах, конь ты мой, мой косю мілы,
Прабач, што ў плуг цябе ўпрагаў
І па баках тваіх штосілы
Балюча пугай лупцаваў.

Ды што тут зробіш, трэба сеяць,
А коні зараз дэфіцыт.
Адно я толькі і сумею:
Паспачуваць, што бедны ты.

Працуеш змучана да ночы —
Шнурочкам доўгім баразна —
Эксплуатуе, хто захоча,
Аруць бывае давідна.

І не пакажаш ім ты дулю!
Арэ і Голуб, і Мазго,
Часцей за іншых Барадулін,
Бо многа сотак у яго.

**ЯНУСЬ МАЛЕЦ**

# НІЎКА



*Мал. Н. Лезінай („Вожык“).*

## ВОСЬ ТАКІ ВОСЬ АНЕКДОТ

### (САВЕЦКІ ПАЛІТЫЧНЫ ГУМАР)

Ноч. Стукат у дзверы.
— Хто там?
— НКУС.
— Чаго вам трэба?
— Адкрывайце, трэба пагаварыць.
— А колькі вас?
— Двух.
— Ну вось і пагаварыце.

* ✲ *

Едуць два супрацоўнікі КДБ у купе і расказваюць палітычныя анекдоты.
Першы:
— Пачакай, я толькі касету памяняю.
Другі:
— Нічога, потым ад мяне перапішаш.

* ✲ *

Шэсць асноўных супярэчнасцяў сацыялізму:
1. Пры сацыялізме ўсе працуюць, а ў магазінах нічога няма.
2. У магазінах нічога няма, але ва ўсіх усё ёсць.
3. Ва ўсіх усё ёсць, але ўсе незадаволены.
4. Усе незадаволены, але ўсе — „за“.
5. Усе „за“, але ніхто не працуе.
6. Ніхто не працуе, але няма беспрацоўя.

* ✲ *

— Ці можна загарнуць слана ў газету?
— Можна, калі гэта газета з прамовай Брэжнева.

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.

**Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Добраахвотныя ахвяраванні працаўнікоў Чыгуначнага дэпо ў Чаромсе.**

| | |
|---|---|
| **3486. Ян Парфянюк** | **— 5000 зл.** |
| **3487. Ілья Зіневіч** | **— 5000 зл.** |
| **3488. Station Станіслаў Пашкевіч** | **— 1000 зл.** |
| **3489. Мікалай Янчук** | **— 4000 зл.** |
| **3490. Валянціна Смык** | **— 1000 зл.** |
| **3491. Павел Шатыловіч** | **— 1000 зл.** |
| **3492. Лявон Карпюк** | **— 2000 зл.** |
| **3493. Аляксей Еўдасюк** | **— 500 зл.** |
| **3494. Юры Саснюк** | **— 10000 зл.** |
| **3495. Яўген Казачук** | **— 3000 зл.** |
| **3496. Юры Баран** | **— 2000 зл.** |
| **3497. Пётр Сцепанюк** | **— 1000 зл.** |
| **3498. Аляксандр Саўчук (II)** | **— 2000 зл.** |
| **3499. Пётр Каплун** | **— 5000 зл.** |
| **3500. Яўген Сцепанюк** | **— 2000 зл.** |
| **3501. Дзмітры Кузуб** | **— 1500 зл.** |
| **3502. Сяргей Шакала** | **— 1000 зл.** |
| **3503. Ян Бадавец** | **— 800 зл.** |
| **3504. Яўген Зін** | **— 1000 зл.** |
| **3505. Сяргей Рэпко** | **— 1000 зл.** |
| **3506. Андрэй Глухоўскі** | **— 650 зл.** |
| **3507. Міхал Сахарчук** | **— 1000 зл.** |
| **3508. Мікалай Маркевіч (II)** | **— 1000 зл.** |
| **3509. Ірына Маркевіч (II)** | **— 1000 зл.** |
| **3510. Уладзіслаў Герасімюк** | **— 2000 зл.** |
| **3511. Міхал Рошчанка** | **— 1000 зл.** |
| **3512. Мікалай Бышчук** | **— 1000 зл.** |
| **3513. Антон Рышчук** | **— 1000 зл.** |
| **3514. Дзмітры Шатыловіч** | **— 2000 зл.** |
| **3515. Мікалай Цімашук** | **— 2000 зл.** |
| **3516. Андрэй Асіпюк** | **— 5000 зл.** |
| **3517. Веслаў Маркевіч** | **— 2000 зл.** |
| **3518. Крыстына Кавальская** | **— 2000 зл.** |
| **3519. Яўгенія Селех** | **— 2000 зл.** |

**Дзякуем.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яўген Чарнякевіч (рэдактар „Зоркі“)**

**„Niwa”**
**ul. Suraska 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 232-41, 210-33.**

**Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.**

**Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.**

**Warunki prenumeraty**

**I. Prenumerata pocztowa.**

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na I kwartał 1991 r. upływa 20 listopada 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty na I kwartał 1991 r. wynosi 10.400 zł + 6.500 zł za doręczenie. W 1991 r cena 1 egz. wynosić będzie 800 zł.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch” Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

**II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.**

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1.300 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— grudzień — 6.500 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 16.900 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok, 5021-3303-132.
Zam. 1649/90